# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 2 6 мая 1928 г. № 2


ЗЬМЕСТ



# Грамадзка-карысная праца школы.

Гэта пытаньне, гэта галіна працы школы займае ў сучасны момант адно з першых месц у жыцьці школы.

Калі мы добра ўявім сабе, што такое наша савецкая школа, яе характар, мэту, то мы зразумеем усю каштоўнасьць і неабходнасьць грамадзкай працы школы.

Школа—арганізацыя, арганізм, арганізаваны калектыў.

Настаўнік садзейнічае яе арганізацыі.

Вучань школы—будучы арганізатар жыцьця.

Арганізацыя школы і арганізацыя жыцьця па-за школай—два непадзельныя фактары выхаваньня.

У. І Ленін свае думкі аб значэньні школы канчае такімі словамі: «Мы павінны ўсе заданьні навучаньня ставіць так, каб кожны дзень у любой вёсцы, у любым горадзе моладзь разьвязвала **практычна** тую ці іншую задачу агульнай працы, няхай нават самую маленькую, самую просьценькую».

Значыць, школа ёсьць непадзельная частка адзінага вялікага грамадзкага цэлага.

Гэта той сацыяльны інстытут, у якім дзіця праводзіць гадзіны сваёй грамадзкай працы; гэта той асяродак, у якім расьце і фармуецца яго асоба, выпрацоўваецца камуністычная ідэалёгія.

З гэтага мы бачым, што грамадзкая праца школы ёсьць непадзельная частка працы школы наогул.

Нельга працаваць у новай школе, ня вызначаўшы сьціслай сувязі яе з акаляючым жыцьцём.

Праграмы Гус'а глыбока арганічна зьвязаны з працай дзяцей сярод насельніцтва.

Праца дзіцяці сярод дарослых і для дарослых—яго прамая задача. Жыцьцё яго ўплятаецца з іх жыцьцём, яго праца ўплятаецца ў іх працу.

Гэта адзін складаны клубок жыцьця, дзе ўсё непарыўна зьвязана.

Што-ж у нас робіцца ў гэтым напрамку? У якіх формах праводзіцца грамадзкая праца?

Мы ня дужа памылімся, калі скажам, што ў нас амаль што нічога ня робіцца.

Возьмем, напрыклад, першую ступень, дзе выкладаньне вядзецца па комплексу. І што-ж мы бачым? Комплексы самі сабе, а жыцьцё само сабе. Школьная праца не ўплятаецца ў працу пазашкольную і атрымліваецца поўная супярэчнасьць з асноўным запатрабаваньнем комплекснасьці. (Сядзячыя комплексы).

Ня лепш справа абстаіць і з выкладаньнем у другім канцэнтры.

Праўда, некаторыя школы ўжо імкнуцца да таго, каб як-небудзь наладзіць грамадзкую працу, і робяць ужо першыя, хоць і ня дужа сьмелыя, крокі.

Якія-ж прычыны не дазваляюць разгарнуцца як сьлед быць грамадзкай працы?

Для ўсіх нас зразумела, што яна павінна быць, але ня зусім ясна, якім шляхам яе трэба праводзіць. Застаецца не разьвязаным пытаньне аб тым, што павінна ўзяць школа за аснову ў сваёй грамадзкай працы. Ня зусім ясны і тыя мэтадычныя шляхі, пры дапамозе якіх школа была-б карысная насельніцтву. Інача кажучы — няма ў нас яснага выяўленьня аб канкрэтным зьмесьце і форме працы; няма належнай практычнай падрыхтоўкі да арганізацыі працы.

Гэта суб'ектыўныя прычыны; ёсьць і об'ектыўныя.

Насельніцтва ў значнай частцы глядзіць на школу так, каб яна хутчэй навучыла дзяцей чытаць і пісаць, і неахвотна ідзе на супрацоўніцтва са школай у грамадзкай яе працы.

Далей—існуе такі настрой і погляд бацькоў, а часам і вучняў, што грамадзкая праца „не для мяне», а значыць, і ня трэба.

І яшчэ—слабыя матар'яльныя рэсурсы школы.

Але мы, асьветнікі, будаўнікі новага жыцьця, павінны ісьці ўперад, мы павінны адшукваць тыя магчымасьці, якія-б склалі спагадныя ўмовы для грамадзкай працы школы.

Хто-ж, акрамя нас, зрушыць гэту справу з мёртвага пункту, хто-ж паставіць школу на моцны фундамант, калі ўся праца яе будзе прасякнута тым глыбокім трудавым грамадзкім зьместам, які ўлівае ў савецкую школу наша эпоха.

Якія-ж асноўныя моманты неабходна высунуць пры арганізацыі грамадзкай працы? А вось якія:

Увязка грамадзкай працы з праграмнай працай школы.

Неабходнасьць прыдаваць гэтай працы канкрэтны зьмест і формы выходзячыя з мясцовых умоў, гаспадарчых і культурных запатрабаваньняў сваёй вёскі, гораду.

Неабходнасьць дагаварвацца па тых ці іншых пытаньнях з самім насельніцтвам і арганізацыямі, якія маглі-б дапамагчы школе ў яе працы (сельсавет, камсамол, жанаддзел, каапэрацыя, камітэт узаемадапамогі, аграном, урач, хата-чытальня, нардом) і

Неабходна прыдаваць грамадзкай працы мэтавую ўстаноўку і плянавы характар.

Скажам пяпер аб самай форме працы, аб ле канкрэтным зьмесьце.

Тут трэба заўважыць тое, што праца школы сярод насельніцтва бярэ свой пачатак, мае свой корань у працоўным жыцьці самой школы.

Працоўныя працэсы нашае школы заключаюцца пакуль што ў самаабслугоўваньні.

Разумна арганізаваная праца вучняў па самаабслугоўваньню мае вялікае выхаваўчае значэньне.

Гэта і ёсьць ужо пачатак грамадзкай працы, якая потым пераносіцца ў насельніцтва, пашыраецца там і выліваецца ў розныя формы.

Паспрабуем згрупаваць розныя віды працы па мэтавых адзнаках.

Гэта будзе:

### Палітыка-культ-асьветная праца:

дапамога мясцовым партыйным, савецкім і прафэсыйным арганізацыям у іх працы, а таксама дапамога хаце-чытальні і нардому.

Сюды можна аднесьці:

даклады, громкае чытаньне, гутаркі, бібліятэчная праца, пісаньне лёзунгаў, плякатаў, выпуск насьценнай газэты сумесна з вясковымі рэдкалегіямі, інсцэніроўкі, дэклямацыі, пастаноўка спэктакляў, чарчэньне графікаў, схэм, дыяграм, распаўсюджаньне газэт і літаратуры, праца па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва і чырвонаармейцаў, арганізацыя антырэлігійных гурткоў, барацьба супроць хуліганства і інш.

### Прапаганда за лепшыя формы вядзеньня сельскай гаспадаркі.

Зьнішчэньне трохпольлі, увядзеньне травасеяньня, культурнае вядзеньне гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства і інш.; разьвядзеньне кармавых буракоў; вывучэньне найлепшага догляду за каровай (уцяпленьне памяшканьня, нормы кармленьня і інш.); барацьба са шкоднікамі садоў і гародаў; барацьба з заносамі пяскоў; арганізацыя с.-гаспадарчых гурткоў; арганізацыя пажарных дружын.

### Санітарна-асьветная праца школ:

прапаганда за пашырэньне сьвятляной плошчы ў хаце; ужываньне плювалак, асобных ручнікоў для членаў сям'і; мыцьцё падлогі; чыстка зубоў; ужываньне мыла; дагляд за калодзежамі, ужываньне аднаго вядра; барацьба проці ужываньня самагону, дэнатурату, табаку; трыманьне ў чыстаце двароў, вуліц; шырокае тлумачэньне аб тым, як убярэч сябе ад заразных хвароб.

**Удзел у правядзэньні «Дню Ураджаю», «Дню Лесу».**

**Удзел у справаздачных кампаніях і перавыбарах, па рэалізацыі займаў.**

**Культурнае шэфства (сямігодак) над суседнімі вёскамі, а таксама і над масавымі школамі.**

**Удзел у правядзеньні рэвалюцыйных сьвят сумесна з насельніцтвам.**

Школа ў сваёй грамадзкай працы няхай ставіць мэтай тое, што па мясцовым умовам даступна школе і што яна можа выканаць.

г. Быхаў. **Яўхім Мяркулаў.**

# Школьная справа ў Польшчы.

У Польшчы ходзіць у пачатковую школу 12 проц. усяго насяленьня. Але трэба прыняць пад увагу, што не ва ўсіх частках сучаснай Польшчы процант дзяцей, якія ходзяць у пачатк. школы, аднолькавы. Ясна, што ён значна меншы ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне, чым, напр., у Пазнані ці на Паморры—былых нямецкіх правінцыях, дзе агульны культурны ўзровень яшчэ да вайны быў куды вышэйшы, чым ня толькі ў Беларусі ці нават у этнаграфічнай Польшчы, але мо, вышэйшы, як дзе-б ні было на сьвеце.

У заходніх ваяводзтвах Польшчы (б. нямецк. правінцыях) лічба вучашчыхся дзяцей зьменшылася за гэты час на 24 проц., а ўсходніх в. (Навагрудзкае, Палескае, Валынскае) павялічылася толькі на 31 проц., а ў цэнтральных ваяводзтвах узрасла аж на 263 проц. (з 370 тыс. на 1,4 млн.)

Такім чынам, калі прыняць пад увагу, што да вайны ва ўсіх частках этнаграфічнай Беларусі, уваходзіўшай у склад царскай Расіі, процант вучашчыхся ў пачатковых школах дзяцей быў больш-менш аднолькавы (прымем колькасьць па 3. Сьцяпуры—39 проц.), дык выходзіць, што цяпер лічба дзяцей у пачатк. школах павялічылася: у Зах. Беларусі на 31 пр. а ў нас на 70 проц. Гэтыя лічбы яскрава паказваюць, якія існуюць з боку ўлады адносіны да школьнай справы ў нас і ў Зах. Беларусі пад Польшчай. Там, ня гледзячы на ўпартае імкненьне польскіх урадаў спалёнізаваць праз польскую школу Зах. Беларусь, ня гледзячы на тое, што ў польскія школы заганяюць беларускіх дзяцей сілком, усё-ж у польскіх паноў не хапае шчодрасьці даць патрэбныя сродкі на школы для гэтых пся-крэв беларускіх хамаў, каб яны вучыліся на панскай мове і ні ў якім выпадку ня вучыліся на беларускай.

Па польскіх даных, з агульнай лічбы ўсіх дзяцей на тэрыторыі сучаснай Польшчы вучылася ў пачатковых школах да вайны толькі 54 проц., а цяпер вучыцца 82 проц., у нас-жа вучылася да вайны—39 проц., а цяпер—66,2 проц. Розьніца досыць значная не на нашу карысьць, але толькі ў адносінах да ўсяе тэрыторыі Польшчы; у адносінах-жа да Зах. Беларусі розьніца, і вельмі значная, выпадае на нашу карысьць.

Пяройдзем, урэшце, да вельмі цікавага для нас пытаньня аб школах у Польшчы для нацыянальных меншасьцяў. Мне здаецца, што найлепш мы зробім, калі дамо слова самому аўтару артыкулу К. Чапінскаму. Вось што ён кажа:

«Становішча справы нацменшасьцявых школ сумнае, часамі скандальнае. Возьмем школы з выкладовай беларускай мовай. Колькі такіх школ ёсьць у Польшчы. Вось-жа разам—3. Даслоўна **тры**(!) Глядзі стар. XVIII кнігі. Адначасова францускіх (прыватных) школ ёсьць 2! Можа паказацца, што навука на францускай мове ў Польшчы знаходзіцца на такім узроўні распаўсюджаньня, як і на беларускай... Можна, праўду кажучы, дадаць яшчэ 19 польска-беларускіх школ, але гэта не мяняе справы.

Што-ж павінны пісаць і што павінны рабіць беларусы ў панскай Польшчы? Жах бярэ, калі падумаеш, што панская ласка дае адну беларускую школу на 42.000 дзяцей, а калі лічыць і поўбеларускіх, дык адну (і то ня чыста беларускую) на 5730 дзяцей.

У адносінах да школ іншых нацыянальнасьцяў Польшча не такая суровая мачыха. Яўрэйскіх пачатковых школ ёсьць 87, а таксама 67 мешаных. Расейскіх—7, літоўскіх—92.

**К.**

# З зарплатай ня ўсё ў парадку.

У гэтым годзе саюзныя органы Працасьветы, як ЦП Саюзу, так Акруговыя Праўленьні і Раймясцкомы шмат патрацілі часу і энэргіі на ўтварэньне калдагавораў. Колькі гарачых спрэчак адбывалася па кожнаму ня толькі пункту, але нават па асобнаму слову праэкту калдагавору! Кожная старана з вялікім напорам імкнулася адстаяць свае прапановы. Але-ж бывае ўсяму канец: справа з калдагаворамі закончылася і калдагаворы амаль што па ўсіх раёнах утвораны.

Паміж іншымі артыкуламі калдагавораў ёсьць і такі артыкул, які прадугледжвае выплату пэнсіі працаўнікоў раёнаў адзін раз у месяц паміж 20 і 30 кожнага месяца. Гэта папершае.

Па-другое. У Бюлетэні СПКБ, ад 26-III—28 г. № 3 (46) зьмешчана пастанова Народнага Камісарыяту Працы Беларусі аб тэрмінах выплаты заработнае платы. На падставе гэтае пастановы, працаўнікі функцыянальных культ-асьветных устаноў, якія знаходзяцца ў гарадох, павінны атрымліваць зарплату два разы ў месяц—1 і 16-га кожнага месяца.

У раёнах і вясковых мясцовасьцях ва ўсіх установах зарплата павінна выплачвацца адзін раз у месяц паміж 20 і 30 кожнага месяца. Гэта пастанова Наркампрацы ўзгоднена з ЦСПСБ і Народным Камісарыятам Грашовых Спраў.

Калі паглядзіш на гэтыя законадаўчыя акты, дык здаецца, што ўсё ў парадку: калдагаворы ўтвораны, пастанова Наркампрацы аб тэрмінах выплаты зарплаты маецца. Што больш трэба?

На справе-ж выходзіць, што ўсяго гэтага мала.

Вось факты: Бягомль. Тэлеграма ад 3-IV. Пэнсія асьветнікам ня выплачваецца—прыміце меры. Сьмілавічы. Адносіна ад 30-III. Райвыканком і ня думаў прыступіць к выплаце пэнсіі. Можа зьбярэцца выплачваць каля 8-IV. Грэск. Адносіна ад 4-IV. Па словах прадстаўнікоў РВК няма пэрспэктыў на хуткае атрыманьне пэнсіі асьветнікам за сакавік месяц.

Па вестках, у другіх раёнах справа з выплатай пэнсіі за сакавік месяц таксама праходзіць нездавальняюча.

Такое зьявішча з выплатай пэнсіі бязумоўна ненармальнае. Ні ў якім выпадку немагчыма дапусьціць, каб калдагавор здабываў сутнасьць непатрэбнага кавалку паперы, каб пастановы законадаўчых органаў ігнараваліся.

Кожны працаўнік павінен быць забясьпечан на далейшы час ад такіх экспэрымэнтаў з тэрмінамі выплаты пэнсіі. Ён павінен быць застрахован ад зьявішч, што кончыўся месяц, а Райвыканком нават ня ведае, калі ён можа прыступіць да выплаты пэнсіі працаўнікам.

Вурок мінулага («сваечасовасьць» выплаты пэнсіі за сакавік месяц) дарэмна не павінен прапасьці.

Павінны быць прыняты самыя рашучыя меры к хутчэйшай выплаце пэнсіі за сакавік і ў далейшым не дапускаць больш такой зацяжкі.

Усякія няўважлівыя адносіны да гэтай справы з боку адміністрацыі павінны знайсьці належнае рэагіраваньне з боку адпаведных органаў.

Наогул, ня лішнім было-б, каб Р. С. І. зацікавілася гэтай справай.

Мельнік.

**АД РЭДАКЦЫІ:—гэты артыкул напісан каля трох тыдняў таму назад, а на днях мы атрымалі весткі ад 26 крас., што настаўніцтва Сьмілавіцкага раёну не атрымала яшчэ зарплаты за сакавік.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Каштарысная драма.

(*Гумарэска*).

Настаўнік працоўнае школы Кастусь Кандратавіч Гістарычэнка і яго жонка Кацярына.

Прозьвішча Гістарычэнка, называючы ім жонку Кацярыну, шмат лепш гучыць, калі яго вымаўляць Гістарычэнка (ад слова гістэрыя), прымаючы на ўвагу тую колькасьць гістэрык, якія яна «закатывала» мужу на працягу месяца, асабліва калі складаўся «мясцовы каштарыс» (не акрвыканкому, а Гістарычэнкаў)...

Вось і зараз сядзяць Кастусь з Кацярынаю за сталом і складаюць каштарыс.

Тут-жа сядзіць іх будучына—піянэр —Камінтэрн і, гадоў пяць, Акцябрына.

Паседжаньне—у поўнай прысутнасьці ўсіх членаў.

Кастусь пачаў пасяджэньне з такім урачыстым выглядам, нібы ён распрацоўваў плян наступу на Перакоп.

— Дык вось, Кацярына, 10 рублёў трэба, каб прышыць галоўкі ў мае боты і даць падноскі нашаму Камінтэрну.

— Камінтэрн яшчэ з месяц пераходзіць.

— Але, пераходжу. Вось ануча ўжо мокрая,—падае рэпліку Камінтэрн.

— Тут гэтага параграфу ня ўрэжаш. Бачыш: вясна наступае, мне ў школу трэба хадзіць на розную там грамадзкую працу.

— А ты не хадзі. Няхай грошы плацяць. Тады і грамадзкасьць будзе.

— Так, не хадзі. А што мясцком засьпявае. Вось у спраўдом...

— Што, у спраўдом пасадзяць?

— Так, ужо «пасадзілі»: прызначылі і хадзі ў «чырвоны куток» у спраўдоме на працу. Пахадзі аж за горад, папрацуй.

— З вастрожнікамі? Вой, ратуйце!

— Ну, далей. Значыць, ужо 10 руб. няма.

— Затым, хоць трэсьні, Кацярына, а трэба мне хоць па рублю аршын набраць якога-небудзь корту на штаны.

— А можа абыйдзешся? Прахадзіў чатыры гады ў гэтых штанах, праходзіш яшчэ пару месяцаў.

— Ну, Каця, разумееш я далей не магу. Ужо і так ніколі не хаджу па клясе, а ўсё сяджу і сяджу. Тлумачу я ўрок, а вучні ўсё сьмяюцца і сьмяюцца... У чым справа—думаю. А потым дагадаўся, што яны падлічваюць, колькі на маіх штанох заплатак. Гэта-ж драма, разумееш—цэлая трагэдыя...

— Ну, добра. А мне што набярэш? У мяне-ж ні ботаў, ні сукенкі.

— Табе што? А ЦРК не прадасьцьжа цяпер аднаго корту на штаны, а накіне яшчэ аршын са тры батысту—вось і будзе табе на блюзку.

— Няхай яна згарыць твая блюзка! Мне сукенка патрэбна, а ня блюзка. Ня дбаеш ты пра мяне.

— Ну, добра—няхай сукенка,—сказаў Кастусь, адчуваючы блізкую гістэрыку.

На штаны да на сукенку набраць—гэта будзе каштаваць рублёў 7, да пашыць... Ну, няхай будзе 11 руб. Дзесяць да адзінаццаць...

— Двадцаць адзін!—гукнуў на ўвесь пакой Камінтэрн.—Тата, а мне трэба піянэрскі гальштук і новыя сшыткі.

— Вось бачыш, мы і забылі пра яго. І для яго-ж хоць рубель трэба,— сказаў Кастусь... Вось і ўсе табе 22 рублі, якія я атрымаў за поўмесяца.

— О-ох, — уздыхнула Кацярына.— Насіліся з гэтымі настаўнікамі, а пэнсію, бач, прыбавілі, як кот наплакаў.

— Мама, есьці!—гэта Акцябрына.

— Вось будзем гарбату піць—і есьці ня будзеш хацець.

Праз некалькі хвілін шумеў самавар.

Пілі гарбату з сухарамі, якія Кацярына насушыла з хлеба (5 кап. фунт у ЦРК).

Кастусь дапівае ўжо пятую шклянку і адчувае сябе задаволеным: каштарыс на бягучы поўмесяца пашанцавала скласьці без асаблівых драм.

Раптам Кацярына ўспомніла аб харчох, ды як залемантуе.

— А есьці што будзем? Ты і забыў пра харчы. Чым я вас карміць буду?

Кастусь толькі цяпер успомніў, што гэты артыкул у каштарысе ён прапусьціў.

— Эге-ге!—сказаў ён, пачухаўшы патыліцу.—Трэба скарачаць каштарыс. Значыць, выкінем сукенку.

— Штаны выкінь!

— Сукенку!

— Штаны!

— Сукенку!

— Дакуль ты мяне мучыць будзеш?

— А што я буду ў клясе „на ўсю Эўропу" сьвяціць?

Жонка ўплач.

— Я не хачу з табою жыць! Развод вазьму...

— Ідзі, адчапіся ты ад мяне. Дзе ты ўзялася на маю галаву!..

— Дык я табе не патрэбна?

Ды як хопіць са стала талерку, ды як бразьне аб падлогу, а затым бах (ненарокам на ложак, хоць і бяз пружын, але з сяньнікам) і... „закаціла гістэрыку"...

Камінтэрн настаражыўся, убачыўшы такую патасоўку, а Акцябрына ўплач.

Кастусь грукнуў дзьвярыма і зьнік у цэмры гораду. Ішоў і думаў:

— Вось і распрацоўвай комплексы, калі ўласныя штаны і надалей будуць тым комплексам, з якога будуць сьмяяцца дзеці...

З украінскага пераапрацаваў і да беларускіх умоў прыстасаваў

**Камлюк.**

▲▲▲▲▲▲▲▲▲▲

# Трэба не праспаць.

Канчаецца навучальны год. З вопыту мінулага году па Менскай акрузе было відаць, што ітогавыя вытворчыя канфэрэнцыі ў канцы навучальнага году зьяўляюцца надзвычайна важнай і неабходнай формай у перападрыхтоўцы вясковага і гарадзкога настаўніцтва масавай школы. Але-ж справа з ітогавымі вытворчымі канфэрэнцыямі абстаіць ня зусім добра. Паколькі вытворчай працай кіруюць інспэктарыяты народнай асьветы, то вытворчыя канфэрэнцыі павінны склікацца, галоўным чынам, па лініі Райвыканкомаў (інспэктарыятаў), якія адказваюць ня толькі за іх кіраўніцтва, а і забясьпечваюць іх сваім бюджэтам. Але справа ў тым, што ў большасьці райвыканкомы на настаўніцкія канфэрэнцыі ня маюць ніякіх сродкаў, а калі ў каго і ёсьць, то яны так нязначны, што іх далёка ня хопіць на гэту справу. Бязумоўна, у гэтым вінават бюджэт. Але-ж зараз чакаць нельга, і гэту справу ўсімі нашымі магчымасьцямі трэба вырашыць. Калі ўзяць для прыкладу Мсьціслаўскі раён, то канфэрэнцыі па лініі прафсаюзу працасьветы адбываюцца рэгулярна. А ў апошнія часы значная ўвага на канфэрэнцыях удзяляецца вытворчым пытаньням. Па прафсаюзнай лініі маркуецца скліканьне канфэрэнцыі і ў канцы навучальнага году. Але-ж гэта канфэрэнцыя будзе цягнуцца 1-2 дні і займецца выкананьнем пытаньняў свайго прафсаюзнага плянаваньня. Раённы інспэктарыят маркуе як-небудзь дагаварыцца аб дадачы некалькі вытворчых пытаньняў. Але такая пастаноўка з-за недахопу часу пікчэмна і, бязумоўна, ня дасьць станоўчых вынікаў. Тут патрэбна, каб сродкі для правядзеньня ітогавых канфэрэнцыяў былі аб'яднаны і каб поўны вытворчы ўхіл быў пастаўлен ня толькі органамі адміністрацыі, а і прафсаюзнымі арганізацыямі. Бязумоўна, ітогавыя канфэрэнцыі дадуць вынікі, калі яны ня будуць насіць дэклярацыйны характар, а калі праца канфэрэнцыі будзе праходзіць па сэкцыях (сэкцыя аднакамплектавых, 2-хкамплект. і г. д.), у працу якіх будзе ўцягнута ўся маса настаўніцтва.

Мне досыць яскрава ўспамінаецца Шацкая ітогавая раённая канфэрэнцыя, якая цягнулася 3-4 дні, працавала па сэкцыях і досыць стала высьвятліла як гадавы пэдагагічны вопыт, так і недахопы ў працы. Шацкія настаўнікі гаварылі, што для нас гэта канфэрэнцыя лепш усякіх курсаў.

У працы раённых канфэрэнцыяў раённыя сямігодкі павінны прыняць актыўнейшы ўдзел і дапамагчы ў тэарэтычным вырашэньні таго ці іншага пытаньня.

Яшчэ большая адказнасьць і актыўнасьць павінна быць выяўлена з боку пэдагагічных тэхнікумаў, калі яны тэрыторыяльна змогуць прыняць удзел у працы вытворчых канфэрэнцыяў. У гарадох, дзе маецца некалькі сямігодак, неабходна правядзеньне самастойных канфэрэнцыяў па працы 2 канцэнтру сямігодак па асобных дысцыплінах. Што датычыцца выставак, якія звычайна рыхтуюцца к ітогавым канфэрэнцыям, з затратай на гэту справу сродкаў і з спэцыяльнай падрыхтоўкай матар'ялаў, то я лічу, што выстаўкі патрэбны, але не «спэцыяльныя», а камбінацыя таго матар'ялу, які прапрацоўваўся, ці набыўся у час навуч. году. Таксама трэба адмовіцца і ад таго, што ў арганізацыі выставак прымаюць удзел толькі гарадзкія ці сямігадовыя школы. Матар'ялы (напр., пісьмовыя працы) вясковых школ—неабходная частка выстаўкі.

Адным словам, гэта праца вялікая, адказная і неабходная і да падрыхтоўкі да яе і плянавага правядзеньня яе трэба прыступіць зараз-жа.

**В. Серафімаў.**

Мсьціслаўль.

# Праблема.

*(Апавяданьне *).*

IV.

Вечар быў наладжаны старэйшымі групамі сямігодкі, дзе настаўнічаў Юзік, з прычыны пяцігадовага юбілею школы.

Памяшканьне нардому, дзе адбываўся вечар, не магло зьмясьціць усіх жадаючых паглядзець на дзіцячыя выступленьні.

У праграме вечару была ўрачыстая частка, п'еска Чарота, спортыўнае выступленьне піанэраў, музычныя нумары, дэклямацыя вершаў, а, урэшце,—гульні.

Юзік, альбо як дзеці яго звалі,—дзядзя Юзя, быў распарадчым вечару. Ён яшчэ загадзя прышоў у нардом з удзельнікамі вечару, правёў генэральную пробу выступленьняў і чакаў сямі гадзін.

Працы, праўда, было. Нардом быў упрыгожаны рознакаляровымі папяровымі ланцужкамі, якія ў сваім перапляценьні стваралі пад стольлю вялікую пяцікутную зорку, а пасярод гарэла сьветлая, вялікая лямпа. Прыводзілася ў парадак сцэна для ўрачыстай часткі вечару.

Настаўніца Сутомская ад імя мясцовага камітэту саюзу працаўнікоў асьветы вітала сямігодку з пяцігадовым юбілеем.

Програма была перапоўнена добра падрыхтаванымі нумарамі. Сьмела выходзілі на сцэну вучні сямігодкі—артысты. О, які гонар ім быў сёньня—быць артыстымі! Кожны «артыст» думаў—з якім замілаваньнем глядзяць на яго брат, бацька ці маці...

І праўда. Заля з замілаваньнем глядзела на гульню артыстых. Ня гульнёю можа і цікавілася заля, але цікава было распазнаць артыстаў, паглядзець, як выглядае брат ці дачка сярод другіх дзяцей.

Станавілася душна ад зьнямогі. Нехта здагадаўся і адчыніў фортачку. Струменьчык сьвежага паветра падбадзёрыў спатнелыя твары, хацелася глядзець...

Вось, вучань Вася Тамашэўскі вышаў на сцэну са сваёй самадзельнай скрыпіцай. Яна беленькая, чысьценькая, з маладой ліпы.

Вася... Вася—школьны музыка. Ён худзенькі, з жоўтым нярухомым тварам. Чорныя вочы, бы шпількі, углядаюцца на ліповую скрыпіцу...

Юзік сядзеў і слухаў музыку Васі Тамашэўскага. І ён, некалі, у тэхнікуме, прабаваў іграць, але ў яго ня выходзіла, і ён кінуў.. Глядзячы на Васю Тамашэўскага, Юзік успомніў вялікія словы Леніна пра талянты. А Ленін казаў, што шмат талянтаў захоўваюць у сабе рабоча-сялянскія масы, і задача савецкай улады даць гэтым талянтам магчымасьць выявіцца...

Вася Тамашэўскі быў, бязумоўна, таленавіты хлапчук.

Ён з самага маленства любіў музыку, майстраваў розныя сьвісьцёлкі, а вось цяпер сам змайстраваў гэтую ліпавую скрыпіцу—самаграйку...

А скрыпіца-самаграйка пела і пела, то вясёлыя, то спакойна-ціхія мэлёдыі.

Калі Вася іграць скончыў, дык заля прышла ў захапленьне: пляскалі ў далоні, білі падлогу нагамі,—прасілі, каб Вася зайграў што-небудзь яшчэ...

І Вася са спакойным, ціхім тварам і чорнымі шпілечкамі—вачмі, іграў зноў...

— Ну, вось і па ўсім!—зьвярнуўся Юзік да Антосі. Ён гэтыя словы сказаў так, нібы скінуў з плеч вялікі, цяжкі вузел. Уздыхнуў сьвежым паветрам, як вышлі на пляц.

Ноч была чорная, зорная. Скрозь вуліцы гарэлі ліхтары. Днём была адлега, а вось уначы ціснуў лёганькі марозік. Антосі пасьля гарачай залі стала холадна.

— Мароз цісьне, мне холадна стала!..

— Гэта заўсёды так—з цяпла калі на холад выйдзеш,—з тонам практыка адказаў Юзік вядомую ісьціну, і ветліва ўзяў падручку Антосю. Антося была ворагам розных «падручак», але было холадна і яна прытулілася да Юзіка, нахіліўшыся да яго.

Ішлі паціху, павольна. Ня было, куды сьпяшацца, а Юзіку хацелася чым больш быць разам з Антосяй. Дзяліліся сваімі ўражаньнямі аб вечары.

Антося зрабіла вывад:

— Вечар прайшоў надзвычайна ўдала. Трэба больш наладжваць гэткіх культурных вечароў. Такія вечары маюць вялікае выхаваўчае значэньне. Вечарамі мы адрываем моладзь ад абывательшчыны, прывіваем кавалачкі культуры, мастацтва. Школа павінна быць выхаваўчым асяродкам...

...Калі цяпер у нас вучань зьвязаны са школаю на працягу якіх-небудзь шасьці гадзін у дзень, дык трэба школе імкнуцца рэшту часу вучня ахапіць выхаваўчай працай...

— Так, прынцыпы новай школы якраз у гэтым,—дадаў Юзік. Але, вось, час, час... Ці ёсьць у настаўніка час і для такога сорту працы... Ты зразумей...

Антосі прышлося згадзіцца. Яна ведае па сабе, што час настаўніка ў раённым цэнтры надзвычайна абмяжован.

Прайшлі ў канец вуліцы, вярнуліся зноў. Было даволі суха, хоць дзе-ні-дзе у лужынцы трашчэў лядок, а вады ня было—за вечар вымерзла.

Юзік правёў Антосю да каліткі хаты Антосінай гаспадыні. У хаце гарэў аганёк.

— Зайдзі да мяне, пасядзі, пагутарым, мо' ў гаспадыні чай застаўся, вып'ем... прапанавала Юзіку Антося.

— Ну, чаго-ж, зойдзем, дык зойдзем,—і гаспадыня, на стук у дзьверы, адчыніла засоўку.

Увайшлі ў маленькі пакойчык Антосі.

Ён быў абклеены сьветленькімі шпалерамі, на адной са сьценак вісела фотографічная картка выпускнікоў тэхнікуму, разам з фотографіяй Антосі; у кутку на паліцы была навалена кіпа кніжок—падручнікі, часопісі, бэлетрыстыка. Было чысьценька і цёпла. Антося разапранулася—скінула кажушок, развязала хустку, страпянула галавою—расправіла прыліпшыя валасы. Скінуў паліто і Юзік.

— Ну, сядай, павячэраем зараз, і вышла да гаспадыні спытацца ці ёсьць чай.

Юзіку ўпяршыню прышлося быць у Антосі, на кватэры. Ён пачаў разглядаць кніжкі, паглядзеў на фотографію, знайшоў Антосін партрэцік і доўга ў яго ўглядаўся...

Пасьля чаю чыталі газэты, жартавалі. Жартавалі так, як наогул жартуюць маладыя хлапцы, дзяўчаты.

І калі было вельмі ўжо позна, а за сьценкаю было чутно, як спала гаспадыня, Антося сядзела на Юзікавых каленях, абнімала яго. Юзік цалаваў Антосю з азартам. Ён пачуў цяпер, што ён кахае яе так, як ніколі нікога не кахаў... Ім было так добра, вольна.

Юзіку не хацелася пакідаць адну Антосю. Ён ня мог сабе ўявіць, што пакіне яе адну, а сам пойдзе да сябе, на кватэру, адзін... Так ня можа быць... Яму хацелася быць разам з Антосяй, хацелася, каб яна была яго жонкай...

— Чаму-ж. Ці-ж ня можа яна мне быць жонкай. Жонкай—таварышам,—

*) Канец. Гл. „Прац. Асьветы“ № 1.

але Юзік ўсё-такі не асьмеліўся сказаць пра гэта Антосі...

Жаночая натура сказалася сёньня ў Антосі. На сёньня жанчына Антося,—перамагла Антосю партыйку. Але-ж ці гэта два супроцьлеглыя разуменьні? Ці іх можна супроцьставіць адно другому?..

Калі сьвітала, Юзік вышаў з Антосінага пакойчыка. Ён быў нібы ў угары—шумела галава! І было так цёпла. прыгожа ў грудзях, на вуліцы... Яму хацелася жыць... Ён успомніў Антосіны словы:

— «Не прызнаю непрызнанае!»...

— Няўжо? Няўжо яна і не прызнае... І сёньня ня прызнавала? Хіба гэта так...

Яму не хацелася, каб гэта было «так». Яму хацелася, каб гэта было тое, што прызвычаена зваць каханьнем...

V.

Стрыножыў жалезны конь—цягнік. Паабапал чыгуначнага шляху імчаліся курчавыя ялінкі, а за імі кружыліся вёскі, гаі, паляны.

Зелянела маладая рунь.

Сонца купалася ў высі,—у вагоне было так сьветла, хораша.

Пыл, трапіўшы пад промень, віўся клубочкам.

Антося ўглядалася на пылінкі—выбірала адну якую-небудзь вялікую, і глядзела, як павольна, павольна яна зьнікае з-пад праменю.

У вагоне было многа людзей. Усе яны з клумкамі, клумачкамі некуды ехалі, кудысьці сьпяшаліся.

Антося вышла на пляцоўку, глянула ў вакно і прылiпла.

Цягнік спыніўся на вялікай станцыі. Антося вышла на пляцформу—разьмяць ногі. Газэтчык прадаваў часопісі, газэты. Яна купіла сьвежы нумар «Кракадзіла». Нумар быў прысьвечаны міжнароднаму жаночаму дню. На першай вокладцы была намалёвана карыкатура. Вось рабочы, у сіняй блузе, трымае за руку сваю нясьмелую жонку, а другою рукою паказвае на сымболь сьветлай будучыні чалавецтва—сонца. За спадніцу жонкі трымаюцца двое дзетак. Пад малюнкам многазначны надпіс:

—«І вось. дарагая, мы пойдзем па гэтаму сьветламу шляху ў сьветлую сонечную будучыню...

А для чытача, у дужках, надпіс наступнага зьместу:

(— Чытач! Паглядзі і ты на сонца, на гэтую сьветлую будучыню).

Антося адгарнула старонку, глянула на сонца. Удалы карыкатурыст на самым сонцы, толькі на другой старонцы, зьмясьціў самы звычайны прымус...

Прышлося міжвольна сынтэзаваць...

Але, не, не! Так ня будзе! Ды чаго там, эт' глупства. Мала чаго ня выдумаюць...

Сутомская прыводзіла ў парадак свае думкі, успамінала аб праведзеных днёх на зьездзе. Па звароце ў район, ёй трэба было рабіць даклад-справаздачу.

А цягнік сваім імпэтам рэзаў паветра, адбіваў размераны тахт...

Пад'яжджалі ўсё бліжэй, бліжэй, бліжэй...

І чым бліжэй падыходзіў цягнік, тым больш, ва ўсю глыбіню перад Антосяй Сутомскай паўставала, праўда зразумелая, проблема яе далейшага, асабістага жыцьця, якую можа вырашыць толькі само жыцьцё, яго дыялектыка...

**Іл. Барашка.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Янка Кашэль.

*(Апавяданьне).*

І вось сёньня я ўжо настаўнік. Так хутка праляцелі дні. Гэтыя 4 гады, што адбыў у тэхнікуме,--і не заўважыў. Вучоба, работа ў ячэйцы, грамадзкая работа запаўнялі ўсе шчыліны дню... Некалі было падлічваць дзён, некалі было сумаваць,—так разважаў малады настаўнік Янка Кашэль, у гэту яшчэ вясну скончыўшы пэдагагічны тэхнікум, ідучы па пыльнае панэлі шумлівага акруговага гарадку.

* * *

— Добры дзень!

— Дзень добры!.. дзень добры!..--неяк сьпяшаючыся адказаў крыху сутулены чалавечак, шпарка перакідваючы паперкі на стале. Потым раптам застанавіўся...

— Вам чаго?

— Я прышоў пад ваш загад. Куды вы мяне накіруеце, на працу... я малады настаўнік...—пераміnаючыся з нагі на нагу, адказаў Янка.

— Ага, так... так... Зараз пабачым,—і адшукаўшы вялікі аркуш паперы з наведзенымі на ім меркаваньнямі,—адказаў:

— Камісія пастанавіла накіраваць вас, Янка Кашэль, на работу ў Замшанскі район, Бабыніцкую школу, атрымайце пасьведчаньне і накіроўвайцеся...

* * *

Толькі што надыходзіла восень... Напалову пажоўклыя лісты бяроз зялёна-жоўтаю коўдраю закрывалі небасхіл... Вецер стаў больш непакойлівым, больш прыставаў з пацалункамі, сотні разоў перабягаў дарогу ўзьнімаючы за сабою сьцежкі пылу, хмарнае неба ледзь-ледзь, як праз сіта, цадзіла маленькія-маленькія крупінкі даждджу, пасохшае бацьвіньне бульбоўніку і дзе-ні-дзе бабкі збожжа казалі ўжо, што жаркі час на вёсцы прайшоў, што цяпер будзе спакойная, гаспадарчая работа.

І Янка, гледзячы на гэты колёрыт, марыў аб тым, як хутка прыбягуць дзеці ў школу, як ён з імі павядзе працу, як вольныя ад школы часы будзе ён выкарыстоўваць на працы ў ячэйцы, у клюбе, па ліквідацыі сярод дарослых і ў іншых мясцох... Адным словам, у яго галаве з кожнаю хвілінаю нараджаліся ўсё новыя і новыя пляны работы...

Ён з кожнаю хвілінаю варочаўся на сядзеньні, і здавалася, каб у той час была перад ім самая найадказная задача, ён-бы раптам яе выканаў...

— Дзядзька!.. а дзядзька!.. ці многа ў вашых Бабынічах хат?—запытаў ён возчыка-селяніна.

— Гэ-э! сынок... досыць. Сам убачыш... дрэнна жыць... хат каля сотні будзе, а ў поле браце ехаць, дык бяда цэлая... ёсьць шнуры аж за 3 вярсты...—кашлянуў стары і мімаволі сьцебануў каня, нібы на ім жадаючы выказаць сваю боль...

— А дзяцей шмат?.. ну, такіх, якім трэба ў школу...

— Чаго добрага браце, а гэтага дабра ёсьць... што ні двор, што ні баба, дык сямёра, васьмёра, а што ў школу, дык набярацца і з дзьвесьце... але яны ўсе ў нас ня ходзяць у школу. Дый мы самі не пасылаем. Навошта ўсіх вучыць!.. што будзе, калі ўсе вучонымі стануць... Хто-ж будзе араць? трэба каму і на гаспадарцы працаваць!..—сказаў стары, а нібы ў пацьвярджэньне задыміў з добры палец цыгарку...

— А вунь на ўзгорачку і нашая вёска... Бачыш, вунь школа, што каля царквы?..

Убачыўшы, невялікае згорбленае па-